Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 12 лютага 1999 г. | № 16 (547) | Кошт свабодны

## Год за кратамі



**Год таму ў Мінску быў арыштаваны дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання, вядомы прадпрымальнік Андрэй Клімаў.**

Аднак і ў следчым ізалятары Клімаў працягвае барацьбу з рэжымам. У знак пратэсту ён двойчы трымаў галадоўку і дагэтуль адмаўляецца ўдзельнічаць у следчых дзеяннях.

Праваабарончыя і палітычныя арганізацыі Беларусі пратэстуюць супраць незаконнага ўтрымання Клімава за кратамі. Усё больш людзей у нашай краіне і за мяжой далучаюць свой голас да патрабавання вызваліць дэпутата з турмы. Сярод іх больш ста дэпутатаў парламентаў краінаў Еўропы і СНД.

Беларускія ўлады, аднак, ніяк не рэагуюць на гэтыя патрабаванні. Як стала вядома, пракуратура Беларусі падоўжыла яшчэ на 4 месяцы тэрмін утрымання Андрэя Клімава ў следчым ізалятары.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Клінтан апраўданы?

Учора лідэр рэспубліканскай большасці ў Сенаце Трэнт Лот сказаў, што, як ён спадзяецца, апошняе паседжанне Сената па справе аб імпічменце прэзідэнту Клінтану скончыцца да 17.00 па мясцовым часе ў чацвер. У Беларусі гэта ўжо 0 гадзінаў сённяшняга дня.

Ужо ўчора практычна ніхто не сумняваўся, што прэзідэнт Клінтан будзе апраўданы. Не сумняваліся нават самыя ўпартыя праціўнікі прэзідэнта-дэмакрата — рэспубліканцы. Для таго, каб вынесці рашэнне аб імпічменце Клінтану, трэба, каб 67 з 100 сенатараў прагаласавалі за гэтае рашэнне. Рэспубліканцы хоць і маюць большасць у Сенаце (55 чалавек супраць 45 — у дэмакратаў), але гэтага ўсё роўна недастаткова. Больш за тое, 3 сенатары—рэспубліканцы ўжо публічна адмовіліся галасаваць за імпічмент Клінтану.



«Монікагейт», як называюць у Амерыцы скандал, які ледзь не прывёў прэзідэнта Клінтана да адхілення ад улады, цягнуўся амаль год, і, як сцвярджае ўча рашняя *Washington Post*, не даў станоўчых вынікаў для Амерыкі — пацярпела рэпутацыя дзяржаўных інстытутаў, узмацніліся негатыўныя тэндэнцыі ў амерыканскім грамадстве, знізіўся давер амерыканцаў да СМІ.

З другога боку, непасрэдныя ўдзельнікі скандалу толькі выйгралі: як паказваюць сацыялагічныя апытанні, Біла Клінтана ў той ці іншай ступені падтрымліваюць 77 працэнтаў амерыканцаў. Моніка Левінскі ўжо някепска зарабіла на тэлевізійных успамінах "Як гэта было".

Такім чынам, Біл Клінтан застаецца законным амерыканскім прэзідэнтам да 2000 года. Тады ён мусіць сысці — у адпаведнасці з амерыканскай канстытуцыяй, прэзідэнтам можна быць не больш, чым два тэрміны.

**Расціслаў ПЯРМЯКОЎ**

## Пік эпідэміі грыпу яшчэ наперадзе

**У Беларусі набірае моц эпідэмія грыпу. У выніку гэтага небяспечнага захворвання шпіталізавана больш за 600 чалавек, сярод іх каля паловы — дзеці.**

На шчасце, пакуль не зарэгістравана ніводнай смерці ад грыпу, аднак ёсць цяжкія выпадкі хваробы. Спецыялісты лічаць, што ў нашай краіне эпідэмія дасягне свайго піку ў апошні тыдзень лютага. Аднак яна можа зацягнуцца, калі распаўсюдзіцца новы вірус грыпу іншай групы.

Найбольш высокі ўзровень захворвання назіраецца ў Мінску, Брэсце, Пінску, Наваполацку, Бабруйску і Барысаве. Напрыклад, у панядзелак у Бабруйску ўзровень захворвання на грып перавысіў звычайную сезонную норму ў 9 разоў. У Бабруйскім раёне хварэе на грып 15 працэнтаў насельніцтва, каля 30 хворых шпіталізаваныя. У паліклініках людзі вымушаныя стаяць у чэргах, каб трапіць на прыём да тэрапеўта. Найбольш характэрнымі ўскладненнямі, якія выклікае грып, з'яўляюцца лёгачныя захворванні розных тыпаў. Урачы рэкамендуюць выкарыстоўваць для прафілактыкі часнок, бо кошты на медыкаменты «кусаюцца». Прышчэпкі супраць грыпу цяпер не даюць жаданага эфекту, іх патрэбна было зрабіць за два-тры тыдні да пачатку эпідэміі.

У рэспубліканскім цэнтры эпідэміялогіі і гігіены сцвярджаюць, што з пачаткам эпідэміі ва ўсіх прадпрыемствах і арганізацыях арганізаванае добрае ацяпленне. Наконт карантыну ў школах эпідэміёлагі паведамілі, што гэтая мера павінна доўжыцца мінімум адзін тыдзень, і пакуль невядома, калі дзеці зноў сядуць за парты.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ-99*

## Час выбіраць свой лёс

Некаторыя апазіцыйныя палітыкі, журналісты, палітолагі, увогуле — пэўная частка нашых суграмадзянаў, якім зусім не даспадобы лукашэнкаўскі рэжым, сумняваюцца ў мэтазгоднасці правядзення 16 траўня гэтага года прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

Маўляў, Лукашэнка не дапусціць правядзення абвешчаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання прэзідэнцкіх выбараў. А нават калі Віктару Ганчару нейкім чынам і ўдасца арганізаваць і правесці выбарчую кампанію, «бацька» ўсё роўна не перадасць паўнамоцтвы нованабранаму кіраўніку дзяржавы. Словам, шанцаў на практычнае ўвасабленне ідэі з прэзідэнцкімі выбарамі па Канстытуцыі 1994 года, як лічаць скептыкі, мала, а таму нявартa і людзей смяшыць.

Сапраўды, нават недасведчанаму ў палітолагічных навуках чалавеку няцяжка прадказаць такое развіццё падзеяў. Мяркую, і дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання не горш за іншых разумеюць, што наўрад ці адразу пасля 16 траўня мы будзем святкаваць перамогу дэмакратыі на Беларусі.

Тым не менш, сёлетняя прэзідэнцкая кампанія — бадай ці не самая рэальная магчымасць нашай Бацькаўшчыны вярнуцца ў сям'ю цывілізаваных еўрапейскіх краінаў дэмакратычным шляхам. Хоць звычайна дыктатарскія рэжымы без бою (у прамым, ваенным сэнсе гэтага слова) не здаюцца. Але на Беларусі гэта пакуль магчыма. Рэжым Лукашэнкі насамрэч не такі ўжо моцны. Наадварот, ён з кожным крызісным днём усё слабее, губляючы сваё апірышча і ў народзе, і ў асяродку наменклатуры. Лукашэнкаўскі электарат, галоўным чынам праз галодны страўнік, пачынае разумець, што яго самым нахабным чынам падманваюць. Жыццё з кожным днём становіцца горш. Але ж многія людзі, якія ўжо страцілі ілюзіі наконт Лукашэнкі, зараз не ведаюць, як змяніць такое жыццё. Прэзідэнцкія выбары 16 траўня даюць адказ на гэтае пытанне.

Гэта, дарэчы, выйсце з тупіка не толькі для палітычна дэзарыентаваных людзей. Наменклатура, альбо гэтак званая прэзідэнцкая «вертыкаль», відавочна, яшчэ больш за апазіцыю ненавідзіць «бацьку». Бо сёння ніхто з дзяржчыноўнікаў не застрахаваны ад турмы. За краты можна трапіць у любы момант, па самым бязглуздым абвінавачванні, дзеля падтрымання «антыкарупцыйнага» іміджу рэжыму. Такі ўжо стыль кіраўніцтва ў «бацькі». А чыноўнікі, што, натуральна, не хочуць паўтараць горкі лёс Тамары Віннікавай ці Васіля Лявонава, ім хочацца спакойнага, размеранага жыцця, якое магчыма толькі пры прадказальным прэзідэнце. І хто ведае, як будуць паводзіць сябе гэтыя

*(Працяг на стар. 2)*



## «Савецкае шампанскае» нікому не патрэбнае?

**Вось ужо трэці дзень не працуе Мінскі завод шампанскіх вінаў. Як паведаміў нам намеснік дырэктара гэтага прадпрыемства Віктар Васільеў, у завода вялікія праблемы з рэалізацыяй прадукцыі.**

На прадпрыемстве працуе каля 200 чалавек, якія цяпер знаходзяцца ў вымушаным адпачынку. У месяц Мінскі завод шампанскіх вінаў можа выпрабляць каля 1 мільёна бутэлек шыпучага напою, але цяпер у гэтым няма патрэбы — як паведаміў В.Васільеў, толькі на складах прадпрыемства накапілася прадукцыі на 170 мільярдаў рублёў.

Па словах Віктара Васільева, з мінулага верасня Мінскі завод шампанскіх вінаў працаваў толькі «на склад» — на базах міністэрства гандлю рабіліся вялікія запасы да Новага года, каб «кожны беларус на Новы год адкаркаваў бутэльку шампанскага». Усяго на базах такім чынам накапілася каля 4 мільёнаў бутэлек «Савецкага шампанскага» — асноўнага прадукту завода. Але ў свабодны продаж гэты запас паступіў толькі 28 снежня, і можна было набываць не больш чым па 1-2 бутэлькі на чалавека. Зразумела, што ўвесь запас мінскага шампанскага не быў раскуплены. Па словах супрацоўнікаў Мінскага завода шампанскіх вінаў, дагэтуль на складах гандлёвых базаў застаецца больш за 2 мільёны бутэлек шампанскага.

Перадгнавагодні недахват на прылаўках «Савецкага шампанскага» гандаль кампенсаваў гэтак званымі «газіраванымі вінамі»: «Салют, Марыя», «Савецкае Ісcкрыстае», «Савецкае Юбілейнае» і г.д., якія пачалі масава выпрабляць іншыя беларускія прадпрыемствы. Гэтая прадукцыя сваім афармленнем, у асаблівасці этыкеткай, вельмі нагадвае «Савецкае шампанскае», але па густавых якасцях значна горшая. В.Васільеў гэтыя віны інакш як «падробкай» не называе. Па ягоных словах, гэта нізкаякасныя напоі, тэхналогія іх вырабу значна адрозніваецца ад класічнай, а тэрмін захоўвання ў параўнанні з «Савецкім шампанскім» у тры разы карацейшы. Больш таго, "газіраваныя віны" ў крамах чамусьці каштуюць амаль удвая даражэй за прадукцыю Мінскага завода шампанскіх вінаў.

«Я не ведаю, хто дапусціў такое шкодніцтва, каб нашая прадукцыя ляжала на складах, а ў крамах прадавалася невядома што! — абураецца Віктар Васільеў. — Мы дзяржаўнае прадпрыемства і кожны дзень пералічваем у бюджэт немалыя сродкі». Адзінае спадзяванне намеснік дырэктара ўскладае на экспарт — па ягоных словах, завод ужо атрымаў некалькі замоваў ад расійскіх, французскіх і швейцарскіх фірмаў, зацікаўленых у пастаўках таннага «Савецкага шампанскага» з Беларусі. Тым не менш, завод сёння стаіць, і невядома, калі скончацца ягоныя праблемы.

**Расціслаў ПЯРМЯКОЎ**

# Час выбіраць свой лёс

(Пачатак на стар. 1)

самыя «вертыкальшчыкі», калі такі прэзідэнт з'явіцца пасля 16 траўня. Нездарма ж, Лукашэнка так баіцца гэтых прэзідэнцкіх выбараў, імкнецца зрабіць усё магчымае, каб іх не дапусціць. Як і кожны дыктатар, больш за ўсё «бацька» баіцца здрады бліжэйшага атачэння. Самай яскравай прыкметай таго, што Лукашэнка спалохаўся, з'яўляецца чарговая кадравая чыстка. Адстаўка міністра ўнутраных справаў Валянціна Агальца — толькі пачатак «перэтрахвання» прэзідэнтам свайго чынавенства, у адданасці якога «бацька» ніколі не быў упэўнены.

Таму новы прэзідэнт, які, дай Бог, з'явіцца ў нашай краіне пасля 16 траўня, хай сабе і не будзе мець адразу рэальнай улады, але ж ён стане рэальным сімвалам, вакол якога з цягам часу змогуць аб'яднацца ўсе адкрытыя і патаемныя праціўнікі цяперашняга рэжыму.

Зрэшты, нават, калі ўладу не дадуць давесці гэтую кампанію да лагічнага канца, першую і вельмі важную маральную перамогу над рэжымам дэмакратычная супольнасць Беларусі ўжо атрымала, узяўшы палітычную ініцыятыву ў свае рукі. Больш таго, менавіта прэзідэнцкія выбары даюць магчымасць беларускім дэмакратычным партыям, рухам і грамадскім аб'яднанням, якія знаходзіліся да гэтага часу ў аморфным стане, «паказаць сябе» выбаршчыкам, што само па сабе ўжо немалаважна. Гэта, у прыватнасці, дасць магчымасць партыям падрыхтавацца самім і падрыхтаваць грамадзянаў Беларусі да чарговай барацьбы за дэмакратычныя пераўтварэнні ў нашай краіне.

**Адам РОЎДА**

## *Гомельскія навінкі*

### Людзей – лічыць, сабак – страляць

Гомельцаў папярэдзілі, што падчас кампаніі па перапісе насельніцтва будзе разгорнута кампанія па адлове і знішчэнні бадзяжных сабак і кошак. Хатніх пітомцаў рэкамендавана з дому не выпускаць.

### У Гомелі пілуюць гіры

370 кілаграмаў падпілеЕных гірак для вагаў канфіскавала за мінулы год міліцыя на Цэнтральным рынку Гомеля. За той жа час узбуджана 198 крымінальных справаў па фактах ашуквання пакупнікоў. Але саджаць асуджаных махляроў няма куды, бо ўсе ІТК Гомельшчыны перапоўненыя: пры норме 5.900 «зэкаў» у іх утрымліваецца ажно 9.700 чалавек. Праўда, мяркуецца, што па амністыі ў бліжэйшы час будуць выпушчаныя на волю каля 6.000 чалавек.

**У.В.**

**13 лютага з 12.00 да 14.00** Таварыства беларускай мовы праводзіць пікет у Мінску **на плошчы Якуба Коласа.** Пікет прысвечаны маючаму адбыцца перапісу насельніцтва.

**14 лютага а 17-й гадзіне на плошчы Свабоды** пачнецца акцыя Маладога Фронту «Беларусь у Еўропу» з перадачай віншаванняў з днём святога Валянціна 10 замежным амбасадам і прадстаўніцтву ААН у Беларусі. Акцыя дазволеная Мінгарвыканкамам.

# Міхаіл Чыгір: «Мой ідэал –

Міхаіл Чыгір — былы прэм'ер-міністр, вяртаецца. Вяртаецца гучна і дэманстратыўна, прапанаваўшы сябе на месца першай асобы ў краіне. Адным крокам Міхаіл Чыгір стаў наперадзе ўсёй беларускай апазіцыі. Ацэнкі гэтага ягонага ўчынку палярныя. У сваім студэнцкім інтэрвью «Белорусской газете» Міхаіл Чыгір сказаў: «Пра якую стабільнасць разважае Лукашэнка, калі ў маёй вёсцы, у маім родным Капыльскім раёне, у сялянаў парваліся апошнія боты, а на што купіць новыя, яны не ведаюць...». Нас, у сваю чаргу, зацікавіла, каму кандыдат у прэзідэнты Беларусі аддае перавагу ў беларускай культуры. Адказ Міхаіла Чыгіра быў такі:

— Вядома, нашым класікам — Багдановічу, Купалу, Броўку. А перад усім — Якубу Коласу.

*— А каго вы шануеце з сучасных беларускіх літаратараў?*

— Васіля Быкава. Я чытаў ягоныя ранейшыя творы. Вельмі шаную яго як чалавека і паважаю як грамадзяніна. На жаль, не выпала мне з ім пазнаёміцца асабіста. Затое знаёмы з Нілам Гілевічам. Дарэчы, вось зараз чытаю ягоны зборнік вершаў. Вядома, — з Някляевым, аўтарам шматлікіх песень, якія мне прыемна слухаць.

*— За часамі Лукашэнкі беларуская мова падлягае свядомай дыскрэдытацыі і дыскрымінацыі. Колькасць беларускіх школаў, выданне беларускіх кніг сцяліся да памераў меншых, чым нават за савецкім часам. Што прапанавалі б вы?*



— Я думаю, што не можа быць беларускай дзяржавы без беларускай мовы! Ужо шмат было зроблена дзеля адраджэння мовы: пашыралася выкладанне ў школах, перакладаліся дакументы. Той Закон аб мове, які быў да Лукашэнкі, быў нармальны. На яго падставе і трэба было рухацца далей. Шмат добрага было зроблена... Але сёння мы ўсё згубілі. Трэба будзе вяртацца на тыя ранейшыя пазіцыі, вяртаць на сваё месца нашу мову. Для мяне гэта прынцыпова.

*— Сёння ў Беларусі не толькі мова, але і помнікі архітэктуры і культуры знаходзяцца ў катастрафічным стане. Патрэбнае аператыўнае ўмяшанне, каб захаваць для нашчадкаў хоць нешта...*

— Нашыя помнікі... Шмат было знішчана ў войнах і ў паваенны савецкі перыяд. Нейкім наскокам гэткія рэчы не вырашаюцца. Паглядзіце, колькі спатрэбілася часу, каб прывесці ў больш-менш належны стан замкі ў Міры і Нясвіжы, якія для мяне ёсць увасабленнем культуры Беларусі. Не ахоўваць помнікі нельга! Трэба знаходзіць сродкі абавязкова. Тут для нас павінна быць узорам Літва. Але я не хачу даваць канкрэтныя рэкамендацыі там, дзе я не спецыяліст. Я ведаю пэўна, што без эфектыўнай эканомікі нам не адбудаваць гістарычных помнікаў. Таму першае, што трэба неадкладна рабіць, — гэта паляпшаць стан эканомікі.

*— Вы прывялі станоўчы прыклад Літвы ў справе ахоўвы помнікаў. А досвед якіх краінаў варта пераймаць у эканоміцы?*

— Нам вельмі блізкая Літва. У галіне палітыкі і эка-



*ПЕРАПІС БЕЛАРУСІ*

# Куды запішуць: у рускія ці ў палякі?

**Можна сказаць, што апазіцыя атрымала перамогу напярэдадні перапісу насельніцтва. У перапісных лістах з'явіўся пункт «Вашая родная мова». Як вядома, улады збіраліся гэтае пытанне скасаваць, замяніўшы нечым накшталт «На якой мове вы размаўляеце ў краме, па тэлефоне або ў тралейбусе?» Працягваючы традыцыі царскага рэжыму і КПСС, нашая вертыкаль зрабіла ўсё, каб беларуская мова заставалася напаўмёртвай. У 300-тысячным Гродне, напрыклад, у гэтым навучальным годзе былі адчыненыя ўсяго два першыя класы з беларускай мовай навучання. Хоць беларусаў у горадзе больш за палову.**

Калі няма нацыянальнай школы, дык і размаўляць па-беларуску амаль ніхто толкам не можа. А гэтае ўжо ўлады хацелі зафіксаваць у перапісе, каб потым было лягчэй далучыць Беларусь, якая размаўляе па-руску і «не мае роднай мовы», да матухны-Расіі. Але летась быў праведзены пробны перапіс у Маладзечанскім раёне. Пасля яго родную мову беларусам вярнулі, ва ўсякім разе — у перапісных лістах.

Усё адно перапіс насельніцтва будзе праводзіцца на рускай мове. Хоць кожны перапісчык павінен мець у запасе і некалькі беларускамоўных бланкаў — на той выпадак, калі нехта запатрабуе, каб дадзеныя яго апытання былі запісаныя менавіта па-беларуску.

Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць выснову, што ў шчырых патрыётаў, якія збіраліся байкатаваць перапіс менавіта з-за «моўнага пытання», патрэба ў байкоце знікла. Улады, між іншым, настроены перапісаць усе 100% насельніцтва, нават беспрытульную публіку ў падвалах і на паддашках. Цікава, што сямейнікам будзе задавацца пытанне, колькі яны хочуць мець дзяцей. Начальству трэба ведаць, колькі спатрэбіцца хлеба, каб накарміць насельніцтва. Вядома, што ўзровень нараджальнасці вельмі знізіўся. Але хлеба спатрэбіцца больш.




Падвергнуцца апытанню і ўсе замежнікі, для якіх прызначаны спецыяльны бланк — чырвонага колеру. Дарэчы, людзей, называных звычайна «афраазіятамі», у Беларусі ўсё больш і больш, «дзякуючы» празрыстай мяжы з Расіяй. Не выключана таксама, што сюды пацягнуцца розныя панславісты ды іншыя пакрыўджаныя, якіх нашыя ўлады, мяркуючы па ўсім, гатовыя прыняць, а пры патрэбе, даць палітычны прытулак.

Карацей кажучы, насельніцтва будзе павялічвацца і хлеба спатрэбіцца больш. Шкада толькі, што саміх беларусаў хутчэй за ўсё стане яшчэ менш. Я не хачу нічога сцвярджаць, але... Паміж двума апошнімі савецкімі перапісамі з 1979 да 1989 гг. беларусаў у БССР стала ўсяго на 334 тысячы больш, а працэнтна іхняя колькасць нават зменшылася — да 77,4%. А цяпер нас яшчэ менш стала, калі верыць нашаму прэзідэнту: як ён заявіў, рускіх у Беларусі — 25%. Калі ўлічыць, што ёсць яшчэ палякі, украінцы і г.д., дык беларусаў, паводле Лукашэнкі, засталося максімум працэнтаў 70. Канешне, мне могуць сказаць, што ён не скажае дадзеныя перапісу 1989 г., а папросту валодае лічбамі міграцыі за апошнія дзесяцігоддзе. Аднак, калі гэта так, дык атрымліваецца, што за гэты час беларусы беглі ў Расію, а рускія — да нас. Нонсэнс!

Справа ў тым, што Лукашэнка называе лічбы, патрэбныя яму, а часам увогуле — «для красного словца» — скажае факты: Ельцыну — 80 гадоў, у Мінску — 2,5 млн. насельніцтва, а 80% з іх — праваслаўныя. Цяжка паверыць у падобныя лічбы, нават калі сабраць ва ўлонне царквы ўсіх так званых «праваслаўных атэістаў». Але, ва ўсякім разе, апошняй лічбай пачынаюць карыстацца афіцыйна. Карацей, можна расцэньваць заяву аб 25% рускіх — як адпаведную «устаноўку». У савецкай краіне, нагадаю, статыстыка з'яўлялася навукай «класавай». Калі ў лічбах перапісу пачатку 1939 г. адбіліся вынікі рэпрэсіяў і масавых расстрэлаў, Сталін загадаў арыштаваць адказных супрацоўнікаў наркамата статыстыкі. Лічбы павінны адпавядаць палітычным задачам. Задача прэзідэнта — пераканаць усіх, што рускім жывецца лепш не пад Ельцыным, а пад ягонай уладай. Сказаў жа ён нядаўна, што рускія ў Беларусі адчуваюць сябе лепш, чым самі беларусы.

Вядома, што перапісчыкі павінны будуць зафіксаваць тую нацыянальнасць, якую вы назавеце, незалежна, напрыклад, ад нацыянальнасці бацькоў. Аднак, думаецца, што сёння няма вялікай небяспекі, што беларусы зноў будуць імкнуцца запісацца рускімі. Мяркуючы па тэндэнцыях, па ранейшых зваротах у пашпартныя сталы, прынамсі Гродзеншчыны, пасля перапісу ў нас павінна стаць больш палякаў. Імі пастараецца запісацца частка тых, хто нават у пашпарце меў беларускую нацыянальнасць. Так што, не выключана, што кепскую паслугу выканае стэрэатып «каталік — значыцца паляк».

А вінаватыя будуць улады. Дэмакраты не здолелі згуртаваць нацыю. Лукашэнка робіць тое ж самае, сцвярджаючы, што ўсе беларусы — праваслаўныя і амаль аднолькавыя з рускімі. Таму досыць натуральным будзе імкненне часткі беларусаў належаць да нацыі еўрапейскай, а не да той, якую ўцягваюць у агоню камуністычнай сістэмы і якая моўчкі падпарадкоўваецца. Падобным чынам беларусы трацілі актыўных людзей у 1939, 1944-45 гг. і ў хрушчоўскія часы, калі была магчымасць пакінуць СССР і выехаць хаця б у Польшчу. Але для гэтага трэба было назвацца палякам. Так што, думаецца мне, усім беларускім патрыётам варта ўдзельнічаць у перапісе, каб лічба беларусаў пасля яго не зменшылася.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Фінляндыя і Швейцарыя...»

номікі нам блізкі і прыклад Польшчы. Аднак я паўсюль кажу, што ў будучыні я асабіста хацеў бы, каб Беларусь сталася гэткай, як Фінляндыя. Хоць у іх неспрыяльны клімат, але дзяржаўны бюджэт Фінляндыі сёння большы, чым у Расіі. Праўда, там да гэтага ішлі доўга і цяжка. Нам, бадай, бліжэйшы прыклад, дзе за вельмі кароткі тэрмін дасягнулі выдатных поспехаў, — гэта Чэхія. Ужо і там бюджэт большы, чым у Расіі! Ну, а зусім побач — тая ж Літва. Яны дасягнулі зайздросных поспехаў, найперш у сельскай гаспадарцы. Эканоміка Літвы стабільная, ёсць устойлівы хуткі рост. Інвестыцыяў у Літву ўкладаецца ў дзясяткі разоў болей, чым у сённяшнюю Беларусь. Практыка давяла, што яны абралі адзіна слушны шлях, па якім трэба будзе ісці і нам.

*— Якія былі б вашыя першачарговыя захады як прэзідэнта?*

— У першую чаргу — зняцце эканамічнай і палітычнай блакады з боку Захаду. Затым усталяванне самых шчыльных кантактаў з МВФ, Сусветным банкам, Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця. Па-трэцяе, адбудова нацыянальнай фінансавай сістэмы.

*— У агульных рысах гэта падобна да праграмы «ценявога ўрада» БНФ...*

— Можа быць. Раней я іх не надта разумеў. Я ўважліва вывучаў іх дакументы, аднак не мог пагадзіцца з некаторымі іх прапановамі, напрыклад, пабудовай другога нафтавага калектара, каб не быць прывязанымі да адной Расіі. Гэта, вядома, рэч нядрэнная, але размова пра мільярды долараў. Іх няма ў Беларусі, няма і ахвочых інвеставаць у гэты праект. Ну дык пра што гутарка? Трэба ж хоць у нечым паляпшаць эканоміку сёння ж. Была яшчэ прапанова павысіць плату за транзіт газу і нафты. Але ж тая плата, якую мы бралі і бяром з Расіі сёння, — гэта сусветныя кошты. Можа, недзе ёсць трохі большыя стаўкі, але вялікага разрыву няма. І без БНФ тут усё ясна. Хоць былі і слушныя прапазіцыі. Напрыклад, павысіць зборы за аўтамабільны транзіт. Я лічыў і лічу гэта разумным.

*— Якой бачыцца вам роля ўрада БНР у беларускай палітыцы?*

— Пакуль ніякай. Яны восемдзесят гадоў сядзяць за мяжою і могуць прасядзець яшчэ столькі ж. Трэба працаваць на Бацькаўшчыне. Ведаеце, грамадзянства БНР, іх пашпарты — гэта нейкі нерэальны, паралельны свет. Гэта гульні. Вы скажаце, што і маё самавылучэнне ў прэзідэнты таксама? Пабачым. Я буду гуляць на сваёй тэрыторыі. І ўсё вырашыцца ў самой Беларусі. Калі самі беларусы выбяруць сабе будучыню, то тут не дасць рады ні Расія, ні Амерыка, ні хто іншы. А кіраўніцтва БНР можа далучацца. Я яшчэ не чуў ад іх канкрэтных прапановаў, напрыклад, эканамічнай праграмы.

*— Лідэр БНФ сцвярджае, што за Вамі стаяць расійскія службы, а з другога боку кажуць, што Масква Вас не падтрымлівае.*

— Хай гавораць, што хочуць. Нядаўна я прачытаў у адной з беларускіх газет, што я — агент ЦРУ. Што да пазіцыі Масквы, то я вам скажу — адны лідэры не падтрымліваюць, другія — гатовыя падтрымаць. У мяне насамрэч там добрыя сувязі, як, між іншым, і на Захадзе.

*— Якія ў Вас замежнапалітычныя сімпатыі?*

— У замежнай палітыцы не патрэбныя ніякія сімпатыі ці антыпатыі. Патрэбны прагматычны падыход. Паколькі мы не можам выбіраць сабе суседзяў, то з Расіяй давядзецца мець шчыльныя эканамічныя кантакты. Але што да блокаў, групаў і гэтак далей, гэта нас не ўратуе. У любым выпадку мы апынемся на сумежжы, на лініі супрацьстаяння. Для мяне ідэал — Швейцарыя, якая нават сёння не збіраецца развітвацца з нейтралітэтам. Трэба разлічваць не на Расію ці Еўропу, а толькі на саміх сябе.

*— А якая пры Вашым магчымым прэзідэнцтве будзе дзяржаўная сімволіка?*

— Яна ж не будзе «маёй». Я асабіста быў рашучым праціўнікам сумнавядомага рэферэндуму. Цяпер жа папярэднюю Канстытуцыю аўтаматычна не вярнуць. Дарэчы, менавіта з-за яе палажэнняў мы маем тое, што маем. Усё павінен вырашаць Вярхоўны Савет. Пытанні пра сцяг і пра герб таксама. Абавязак прэзідэнта — выконваць закон. Калі вернецца папярэдняя сімволіка — я не супраць. Аднак спачатку няхай сам народ абярэ сабе законны парламент.

*Гутарыў*
**Сяргей ХАРЭЎСКІ,**
*«Наша Ніва»*

ЗА МЯЖОЙ

# Круглый стол польской марки

**Минуло 10 лет, как в Варшаве начался Круглый Стол, событие, которое так и пишется с той поры с большой буквы и которое, вместе со словом «Солидарность», во всем мире связывают именно с Польшей.**

Успех двухмесячных переговоров Круглого Стола между представителями государственно-партийного аппарата и лидерами запрещенной тогда «Солидарности» при участии представителей польского костела открыл дорогу мирному переходу власти в этой стране от коммунистов к демократической оппозиции и трансформации государственной системы в Польше. Именно за это Лех Валенса, лидер «Солидарности», а впоследствии президент Польши, получил Нобелевскую премию мира.

Целью польского народа была полная независимость страны, которая в результате Ялтинских соглашений в числе других стран Центральной Европы оказалась в «зоне влияния» Советского Союза. Польский Круглый Стол означал начало конца Ялтинского раздела мира, проведенного в конце Второй мировой войны без участия вовлеченных в него «малых» народов.

Круглый Стол стал возможен благодаря многим факторам. Во-первых, польская «Солидарность», зародившаяся в 80-м году, сумела пережить военное положение, тюрьмы, делегализацию и все больше демонстрировала свою силу. Организовать Круглый Стол предложило оппозиции правительство, это стало возможным во многом благодаря генералу Ярузельскому (который сам участия в переговорах не принимал). Цель коммунистических кругов заключалась в том, чтобы «поделиться» властью, а следовательно, и ответственностью с оппозицией.

Достигнутые в ходе Круглого Стола договоренности сделали возможным проведение первых в Центральной Европе свободных выборов, в которых победила оппозиция, и формирование первого в этом регионе демократического правительства, а также начало экономических реформ, известных как реформы Бальцеровича, успех которых обеспечил Польше позицию лидера на постсоветском пространстве и одни из самых высоких темпов экономического роста в мире.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

МЕСТНЫЕ ВЫБАРЫ

# «Идеологам» приказано выжить

## *Но за счет рабочих и служащих*



На прошедшей неделе в Мингорисполкоме состоялось совещание «идеологов», посвященное предстоящим выборам. Собравшиеся призывали защитить городской совет от проникновения оппозиционных сил.

На заседание были приглашены руководители районных администраций и предприятий города, которым предложили выделить необходимые финансовые средства. Так что рабочим и служащим, которые надеялись на повышение зарплаты, придется потерпеть.

Всего в Минске образовано 52 избирательных округа и организовано 619 избирательных участка. Началось выдвижение кандидатов в депутаты, однако на сегодняшний день политические партии не заявили ни об одном выдвижении.

Развернутую информацию собравшимся представили председатель Центризбиркома Л. Ермошина, директор Института социально-политических исследований при администрации президента Е. Матусевич и зам. председателя Мингорисполкома В. Чикин.

### Судьбу выборов решат досрочно?

Людмила Ермошина подчеркнула, что новые правила предусматривают определенные ограничения в области избирательного права. Нововведения лишают возможности быть зарегистрированными в качестве кандидата в депутаты тех, кто имеет не снятую судимость, а также лиц, привлекавшихся к административной ответственности по суду в течение года. Причем считать годовой срок следует не с момента принятия судебного решения, а с момента его исполнения.

Еще одно нововведение, которое было успешно опробовано на референдуме, — досрочное голосование. Уже за пять дней до выборов на участках начнут дежурить члены избирательной комиссии.

Наблюдатели от трудовых коллективов, политических и общественных объединений должны за день до выборов представить документы, подтверждающие их полномочия. Предварительное уведомление не распространяется на международных наблюдателей, наблюдателей от средств массовой информации и депутатов всех уровней, которые могут объявить о своем присутствии в качестве наблюдателей в день выборов.

Судя по всему, досрочное голосование будет бесконтрольным.

### Треть страны готова бастовать

Социологические исследования, проведенные в ноябре 1998 г., подтвердили, что каждый житель Беларуси ощущает сейчас на себе резкое ухудшение уровня жизни. Как заявил собравшимся Е. Матусевич, в настоящее время 64,8% (по Минску 70,2%) населения считают, что стали жить хуже. Это на 9% больше по сравнению с аналогичными данными опроса, проведенного в мае 1998 г.

Почти две трети населения Беларуси (73,6%) считает, что экономическая ситуация в стране продолжает ухудшаться.

Изменение экономической ситуации привело к ухудшению отношения населения к властным структурам. Правда, как сказал Е.Матусевич, рейтинг президента и его администрации по-прежнему самый высокий, но рейтинг правительственных структур, местных органов власти и, что было особенно подчеркнуто, Национального собрания как никогда низок.

Ситуация с информационным обеспечением проводимой политики и предстоящих выборов была оценена как весьма сложная из-за того, что почти вся территория республики перекрывается российскими телевизионными каналами, которые «редко транслируют дружественные передачи по отношению к Беларуси и ее руководству».

Особую тревогу у власти вызывает тот факт, что российские каналы население более всего и смотрит. Так, по результатам опроса выяснилось, что в Минске передачи ОРТ смотрит 82,5%, НТВ — 71%, РТР — 65%, в то время как зрителями БТ являются лишь 38% опрошенных.

Выступавший призвал собравшихся не расслабляться, ибо, по его словам, «оппозиция очень хорошо подпитывается средствами как с Запада, так и с Востока». Видимо, чтобы доказать существование «восточной» поддержки, докладчик напомнил о начавшейся «раскрутке» бывшего премьер-министра Михаила Чигиря.

### Все на борьбу с оппозицией

Виктор Чикин сказал собравшимся: «Не будем лукавить, предстоящие и последующие выборы станут главной частью вашей работы и ее оценки не только сегодня, но и в последующие пять лет. Вам придется заниматься не только организационными вопросами по формированию участковых избирательных комиссий, вопросами материального обеспечения выборов, но и борьбой с теми кандидатами от оппозиции, которые будут выдвинуты по вашим округам».

В.Чикин призвал выдвигать кандидатами от трудовых коллективов «только тех, в ком уверены», и высказал сожаление, что «слишком активное участие в выборах принимают оппозиционные силы».

Идеологам было также предложено создать на своих предприятиях народные дружины. Только, попросил Чикин, «давайте выполним это не так, как прежнее поручение. Два месяца тому назад мы просили вас поработать с молодежью и создать у себя на предприятиях первичные организации Белорусского патриотического союза молодежи (БПСМ). За прошедшее время не создано ни одной первичной организации на предприятиях».

В общем, заметно, что с приближением выборов власти все больше опасаются их итогов.

**Александр ГАЛЬКЕВИЧ**

# Сёмая унія

Слова «унія» ў перакладзе з лацінскай азначае «саюз». Паколькі прэзідэнты Ельцын і Лукашэнка нястомна ствараюць саюз, дык Дэкларацыя ад 25 снежня мінулага года абвясціла пра Расійска-Беларускую унію. Напісаць «Беларуска-Расійская» з-за непараўнальных масаў насельніцтва, абшараў тэрыторыі, запасаў карысных выкапняў дзвюх краінаў было б неяк недарэчна. Такім чынам мы сёння жывыя сведкі (ці ахвяры) чарговай уніі. Чарговай, бо Беларусь ужо паспытала смак шасці. Канкрэтна ў нашай гісторыі засведчаны горасныя наступствы Крэўскай (1384), Гарадзельскай (1413), Люблінскай (1569), Беларуска-Літоўскай (1919), СССРаўскай (1922), СНДоўскай (1991) уніяў. Далучэнне Беларусі да Расіі ў 1772—1795 гадах уніяй не афармлялася, гэта быў адкрыты гвалт і ў спіс саюзаў ён не трапляе.

600 гадоў знаходжання ў розных уніях даюць добры грунт для рознабаковых асэнсаванняў шкоды ад шчыльнага саюза дзяржаваў. Пасля кожнай брацкай уніі Беларусь трапляла ці ў вайну, ці пад прыгнёт. Крэўская дынастычная унія павязала Беларусь і Літву з Польшчай, спыніўшы самастойнае развіццё магутнай на той час дзяржавы. У Гарадзельскай уніі ўжо было запісана пра «інкарпарацыю» (уцяленне) Беларусі і Літвы ў польскае каралеўства, і нейкі час мы былі на манер сіямскіх блізнятаў — з дзвюма галовамі ды на адных нагах.

Праз паўтара стагоддзя, скарыстаўшы бедствы і нядужасць Вялікага Княства пасля Лівонскай вайны (сённяшнімі словамі — глыбокі крызіс), Польшча адняла ад ВКЛ Украіну і абшары Беласточчыны. Абкарнанае палякамі Княства яшчэ адстойвала рэшткі незалежнасці, пакуль яго не заліў крывёй Патоп маскоўскай ва-



еннай навалы (1654-1661). Пасля страты ў той вайне паловы насельніцтва шляхта цалкам спаланізавалася, падарваная эканоміка пагрузілася ў кому амаль на стагоддзе, войска прошукамі заходніх і ўсходніх суседзяў скарацілася да памеру некалькіх палкоў. Пасля перамогі рускага боку ў 18 стагоддзі Беларусь мусіла стаць расійскім фарпостам на заходнім напрамку, страціла мільён насельніцтва ў 1812 годзе, лепшых сыноў падчас паўстанняў, мову, школу, літаратуру, нацыянальныя гонар і свядомасць на карысць усходніх братоў па крыві.

У 1919 годзе толькі што створаная БССР, выконваючы ролю па маскоўскім сцэнары, аб'ядналася з ЛітССР у так званы ЛітБел, патрэбны бальшавікам, каб трымаць у цуглях Літву. Гэтая Чацвёртая унія, аднак, была скасаваная польскімі шаблямі.

Пасля Рыжскага міру палякі ператварылі Заходнюю Беларусь у «крэсы ўсходнія», а ад беларускіх усходніх абшараў Расія адарвала Віцебшчыну, Магілёўшчыну ды Гомельшчыну. Адроджаная БССР мела тэрыторыю 52,3 тысячы кв.км. (у пяць разоў менш за сённяшнюю) і насельніцтва 1,5 млн. чалавек. Гэтым абрэзкам яна прымала рашэнне аб уступленні ў Саюз ССР. Якую легітымнасць мае рашэнне меншасці ад імя ўсяго беларускага народа — няхай вырашаюць законнікі.

Савецкі Саюз (Пятая унія) не здолеў абараніць Беларусь, калі гітлераўцы распачалі вайну, мы згубілі кожнага чацвёртага, эканоміка была разбураная дашчэнту. Зразумела, тое самое было б, каб Беларусь і не мела «брацкай» уніі, але гэта пацвярджае бессэнсоўнасць шчыльнага саюза як нейкай меры бяспекі. Гэта, відаць, можна смела аднесці да Дамовы аб калектыўнай бяспецы, у якую паспяшалася Беларусь пасля развалу СССР.

Пасля вайны Пятая унія высцягвала людскія рэзервы, і так паменшаныя на чвэрць вайной, у Сібір (у лагеры і на асваенне тэрыторыяў аўтаномных расійскіх рэспублік), а потым — у Карэлію і на асваенне казахскіх земляў.

Нарэшце, у 1991 годзе заглянула сонца і ў наша ваконца. Ды нядоўга свяціла. Шостая унія, паколькі з ёй злучылася раскраданне народнай маёмасці, утварэнне алігархіі, галеча, голад, падман, не магла набыць прыстойны выгляд. Адгукаючыся на «геапалітычныя апетыты» Расіі, першы прэзідэнт Беларусі вырашыў увайсці ў гісторыю краіны і як апошні. Дэкларацыя зноў ператварае нас з беларусаў ва уніятаў. Таму варта ўразумець, што нам вернецца статус, які мы мелі па пятай, — прылучаная правінцыя, перадавы фарпост.

Па збегу гістарычных акалічнасцяў Першую унію афармлялі шлюбам Ягайлы і Ядзвігі, неўзабаве пасля Другой Вітаўт і Ягайла ажаніліся на сёстрах, Трэцяй папярэднічаў кароткі шлюб Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл. Наступныя уніі афармляліся без шлюбаў і кахання, выключна па разліку палітыкаў, і таму, не сагрэтыя шчырым пачуццём сэрцаў, яны не маглі нарадзіць нешта жывое і даўгавечнае. Здаецца, што і эксперымент з Сёмай уніяй, якую падпісалі Ельцын і Лукашэнка, дасць такое ж дзіця. Першыя уніі прынеслі паланізацыю і абмежаванне дзяржавы. Наступныя служылі мэтам русіфікацыі. Апошняя ўжо адзначаная намаганнямі занесці беларускую мову ў спіс «мёртвых моваў свету».

Аляксандр Вітаўт пасля Гарадзельскай уніі імкнуўся да кароны і нават чакаў яе. Ужо і сталы былі накрытыя, і з'ехаліся госці, але карону перахапілі палякі, і князь Аляксандр з гора занядужыў. Падобна на тое, што належны тытул ва ўмовах Сёмай уніі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка можа не атрымаць. Валадарная карона дастанецца расійскаму боку. А народ, як шэсць стагоддзяў таму, так і зараз у разлік не бярэцца, хоць па правілах гульні ўсялякія перамены наверсе, у пануючых колах, абвяшчаюцца клопатам пра народны дабрабыт, шчасце, росквіт эканомікі і культуры.

На сёмы дзень, як сведчыць Біблія, і Пан Бог адпачываў. Трэба і нашаму народу адпачыць пасля шасці разбуральных уніяў, а не лезці ў пастку Сёмай з наіўнай спадзеяй ўбачыць рай.

**Юры МАТУЛЕВІЧ**

# Указы – эпічны жанр літаратуры

**Першы нумар мінскага часопіса «Всемирная литература» выйшаў сёлета з інтрыгуючым анонсам: «Александр Лукашенко. Бессмертные книги пишет народ». Што ні кажыце, а цікава пачытаць развагі такога чалавека пра літаратуру і творчы працэс. Але ў інтэрв'ю з прэзідэнтам гаворыць не толькі пра гэта і ўвогуле галоўным чынам — пра іншае.**

Напрыклад, аб правах і свабодах чалавека. Інтэрв'юер імкнецца дагадзіць прэзідэнту, добра ведаючы ягоныя погляды. Маўляў, «мітусні» вакол гэтага ажно зашмат!» Прэзідэнт жа паведамляе пра нейкія «прывідныя» свабоды і «сапраўдныя». Як вядома, сапраўдными ён лічыць правы на жыццё, працу і адпачынак. Але ёсць і нешта новае. У інтэрв'ю А.Лукашэнка, хоць і не вельмі канкрэтна, гаворыць, што не ўсе дзяржавы могуць успрымаць нормы Дэкларацыі аб правах чалавека аднолькава. Паколькі ёсць моцныя і кволыя дзяржавы. Адны ўзбагачаліся за кошт іншых. Намёк зразумелы: беларуская краіна ў гэтым сэнсе кволая. Вядома ж, мы дзвесце гадоў былі пад Расіяй. Значыцца, да дэмакратыі не дараслі.

Интэрв'юер наракае, што «ветер перемен поднял много пыли», з-за якога, аказваецца, цяжка бачыць і дыхаць. Трэба разумець, што пры КПСС пісьменнікам было лягчэй дыхаць? Інтэрв'юер не можа таксама стрымацца, каб не падсаладзіць свае пытанні: вы «сознательно не торопите события, постоянно определяя — для себя и для всей страны — нужный ритм». Брава!

У адказ прэзідэнт сцвярджае, што «цяперашняя ўлада робіць усё для духоўнага развіцця нацыі». І абвяшчае: «Бессмертные книги пишет народ в лице своих лучших представителей — Пушкина, Толстого, Гоголя, Купалы». Цікава, што беларускі прэзідэнт хваліць рускіх пісьменнікаў, дадаючы яшчэ Купалу, які загінуў у Маскве, але рускім не быў. Сама фраза — пафасная, але пустая — нагадвае вядомае «о Сталине мудром бессмертные песни слагает народ».

Лукашэнка паспявае сказаць чытачам «ВЛ» і пра эканоміку, якая павінна стварыць умовы «для полноценного существования каждого индивида, основывающегося на балансе духовного и материального, в предоставлении каждому возможности для полного самовыявления своей индивидуальности». Карацей кажучы, нам нагадалі даўно забытую фармулёўку з падручніка па палітэканоміі сацыялізму.

Заканчваючы, інтэрв'юер зноў не ўстрымаўся ад кампліманта: «Уверена, что у вас, Александр Григорьевич, впереди хоть и непростой, но полный свершений путь». У канцы нумара, між іншым, змешчаны звесткі пра аўтараў: якія кнігі выдалі, якія прэміі атрымалі. Пра А.Лукашэнку сказана толькі, што ён наш прэзідэнт і што лаўрэат літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Расіі імя М.Шолахава. Такім чынам, галоўнага пытання «бацьку» так і не было зададзена: як можна атрымаць літаратурную прэмію, не напісаўшы ніводнай кнігі?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# «Вераніка Круглова: Гэта вялікі цяжар – несьці карону»

Сёння прапаноўваю размову з удзельнікамі гурта «Крыві». Нагадаю, на першай Рок-каранацыі-94 намінацыя Рок-Князёўны адсутнічала, і калі на Каранацыі-95 Касі Камоцкай быў прысвоены гэты тытул, злыя языкі адразу ж растлумачылі з'яўленне гэтай намінацыі асабістымі сімпатыямі арганізатараў у асобе прадзюсера Юрыя Цыбіна. У 94, 95, 96 гадах карона Рок-Князёўны заставалася ў руках Камоцкай. Урэшце, на Рок-каранацыі-96, калі Камоцкай у чарговы раз была ўручаная карона, яна сказала: «Хопіць! Болей здзекавацца з сябе не дам!». Арганізатары ў наступным годзе перадалі ўзнагароду Крысціне Мендзялеевай з гурта *Hasta la fillsta*. Гэта сталася вялікай нечаканасцю як для гледачоў, так і для журналістаў. Да Крысціны тытул не прыжыўся, і таму сёлета арганізатары вырашылі ўвогуле пазбавіцца гэтай намінацыі, і ў анкетах Рок-каранацыі-98 не было пытання пра лепшы жаночы вакал. Але па настойлівых патрабаваннях удзельні-каў анкетавання тытул Рок-Князёўны нададзены Вераніцы Кругловай.

*— А гэта праўда, што вашую карону скралі проста на сцэне?*

**В. Круглова**. Так, і я настолькі разгубілася, што ледзь не плакала. Лявон Вольскі, які меў у торбе шмат карон, сказаў: «На, Круглова, табе маю карону».



Гэта было, канешне, вельмі прыемна.

*— Што-небудзь змянілася, калі ты адчула на сабе гэты цяжар — рок-князёўна?*

**В.К.** Я ўжо дзяўчынка дарослая, і зорнай хваробай, спадзяюся, не захварэю. Канешне, вельмі прыемнае пачуццё — тое, што цябе прызналі, тое, што пра цябе пішуць у газетах і нават фотаздымкі ёсць. Усё гэта, канешне, прыгожа. Але гэта і абавязвае: трэба трымаць сябе ў руках, пастаянна працаваць. Але мне вельмі крыўдна, што адзначылі толькі мяне і не заўважылі наш гурт «Крыві». Мы летась шмат працавалі, запісалі, на мой погляд, вельмі ўдалы альбом «За туманам», у нас было больш за 100 канцэртаў.

*— Можа, праўда, Зміцер, гурт крыўдаваў?*

**Зміцер Вайцюшкевіч**. Не, ніхто з гурта «Крыві», я не крыўдаваў. Па-першае, вельмі радасна за Вераніку, па-другое, «Крыві» засталіся з падарункам — музычным цэнтрам, па-трэцяе, у гурце ёсць прызнаны лепшы музыкант года — Піт Паўлаў. Гурт «Крыві» малады калектыў — яму яшчэ не споўнілася два гады. 8 сакавіка 1997 года адбыўся першы канцэрт гурта ў Берліне.

*— І ён быў прысвечаны святу Клары Цэткін — міжнароднаму жаночаму дню?*

**Зм.В.** Я думаю ён быў прысвечаны выміраючым бабулькам Беларусі, якія адвеку спявалі гэтыя цудоўныя песні. Увогуле, ідэя гурта нарадзілася вельмі даўно. Яшчэ з 93 года сённяшнія ўдзельнікі «Крыві», а тады ўдзельнікі студыі «Палац», ездзілі ў экспедыцыі збіраць старажытныя беларускія песні і балады. І, увогуле, першы склад «Крыві» — гэта экспедыцыйны склад «Палаца». І шкада, што ўвасобіць гэтыя напрацоўкі мы здолелі толькі два гады назад. Мы запісалі два альбомы на касетах і адзін кампакт — дыск «Крыві «Live» in Berlin».

*— Цікава, што ў «Крыві» да апошняга часу не было ніводнага сольнага канцэрта ў Мінску, у асноўным, мы выступалі за мяжою — у Польшчы, Нямеччыне.*

**Зм.В.** Сапраўды так. Нарэшце, 21 студзеня адбылася прэзентацыя нашага новага альбома «За туманам» — вельмі ўдалы і шчыры канцэрт. Канешне, ідэя «Крыві» — гэта папулярызацыя беларускага фальклору. Але мы хацелі б быць у апазіцыі да іншых фальклорных гуртоў, нават да «Палаца». Мы б хацелі быць, так бы мовіць, «правакатарамі» беларускага музычнага фальклору. Гэта значыць: нечаканы аранжыроўкі, адвольная змена стылю, новае філасофска-светапоглядная прачытанне старых песень. Можа быць таму наш апошні альбом можна назваць эклектычным — там шмат эксперыментаў і з гукам, і са стылем.

*Хочацца павіншаваць «Крыві» з першым месцам у хіт-парадзе кліпаў і павядаміць фанам, што ў бліжэйшы час адбудзецца вялікі сольны канцэрт гурта.*

**Магдалена Н.**

